


# Залеская талака



*Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра / №3 / верасень 2011*

Інтэрв'ю

## Зянон Грышкевіч: "Падабаецца, калі атрымліваецца дапамагчы чалавеку…"

**Ужо другі год старшынём Залескага сельскага савету працуе Зянон Зянонавіч Грышкевіч. Пра працу і справы мясцовыя – кароткая гутарка з ім для "Залескай Талакі".**

**Д. Л. Зянон Зянонавіч, што вам найболей падабаецца ў вашай працы? І што не падабаецца?**

З. Г. Падабаецца працаваць з людзьмі, падабаецца, калі атрымліваецца камусьці дапамагчы: прывезці дровы ці бульбу пажылым самотным людзям, напрыклад.

Што не падабаецца? Шмат працы, якую трэба зрабіць, але зрабіць немагчыма з-за адсутнасці фінансавых сродкаў. На жаль, цяпер такі час.

**Д. Л. За апошнія паўгады, што ўдалося зрабіць найбольш важнага?**

З. Г. Я лічу, што шмат добрага было зроблена па добраўпарадкаванні тэрыторыі Залесся, дапамагалі мы і пенсіянерам…Супрацьпажарная бяспека. Створаны і працуе пунк аховы грамадскага правапарадку.

**Д. Л. Чым любіце займацца пасля працы?**

З. Г. Тэхнікай люблю займацца, люблю папрацаваць у садзе-агародзе.

**Д. Л. Куды б хацелі з'ездзіць у падарожжа?**

З. Г. Не задумваўся пра гэта… Канечне, па ўсім свеце цікава пападарожнічаць, але ж магчымасці такой няма…

Было б добра, каб нашы жаданні супадалі з нашымі магчымасцямі часцей, падумалася мне пасля размовы з Зянонам Зяновічам.

Зрэшты, варта скарыстоўваць аптымальным чынам тое, што маем!

**Залескі сельскі савет. Факты**

Тэрыторыя - 101 км2

Колькасць жыхароў - 2735 чалавек

Па стане на 1 верасня 2011 года памерла 43 чалавекі і нарадзілася 11.

Сумны баланс…

**Дар'я Ліс**

Постфактум




## Залессе адфестывяліла!

6 жніўня 2011 года ў Залессі прайшоў чарговы, трэці па ліку, фестываль-кірмаш "Залессе запрашае сяброў". Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні свята прынялі пярвічная арганізацыя "Сяльчанка" грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз жанчын", Залескі сельскі савет, аддзел культуры Смаргонскага райвыканкама, ААТ "Смаргоньселікатабетон", мясцовыя прадпрымальнікі і мясцовыя жыхары, а таксама фонд "Жывое партнёрства" пры дапамозе Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Беларусі.

Удзел у святце прынялі майстры народнай творчасці, калектывы мастацкай самадзейнасці, жыхары Залесся і ваколіцаў. На адкрыцці свята выступіў намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама Аляксандр Вярсоцкі. Потым на сцэну выйшлі мясцовыя калектывы мастацкай самадзейнасці і сольныя выканаўцы, а таксама госці з Польшчы (Беласточчына, этнаграфічны калектыў "Цаглінкі"), Расіі (Масква, фальклорны гурт "Кірмаш"), Віцебска (калектыў мастацкай самадзейнасці "Віцебскаблгаз") і Жодзішак (гурт песні і танца "Вечарынка"). Выступіў з прамовай і старшыня беларускіх суполак Літвы Раман Вайніцкі.

Жыхары Залесся запрасілі гасцей у свае імправізаваныя падворкі, дзе госці маглі пачаставацца язэпаўкай, шмурдзюком і іншымі прысмакамі. У мястэчку гасцей і сяброў свята сустракалі ў сямі падворках: арганізацыі "Сяльчанка", "Жыць здорава!" Залескай амбулаторыі, "Шутавіцкія прысмакі" жыхароў Шутавічаў, "На хатку немаўлятку", "Пачастунак", дзе гаспадарыла Людміла Гружэўская, "Карчма "Агінец", падрыхтаваная моладдзю, і "Казачная паляна" Залескага цэнтральнага дома культуры.

Адна-дзве тысячы рублёў – і вы маглі пачаставацца блінамі з начынкай, вафлямі, грыбкамі, рагалікам. Паспрабаваць наліўкі, настойкі, квас. Прадаваліся таксама цукровыя пеўнікі, дранікі, бутэрброды з салам. Супрацоўнікі Залескай амбулаторыі адкрылі фітабар з квасам, травянымі настоямі і чаямі. Побач працавала "аптэка", дзе былі "лекі" ад мярцвення канечнасцяў, "ад удаўленія", ад усіх хваробаў і нават "для кахання". Як і на іншых святах, свае вырабы прадавалі народныя майстры, працавалі атракцыёны для дзяцей.

Напрыканцы фестывалю старшыня сельсавета Зянон Грышкевіч адзначыў гаспадароў дамоў узорнай культуры Залесся і тых, хто ладзіў падворкі для кірмашу, а таксама запрасіў усіх сустрэцца праз год.

Арганізатары свята былі вельмі рады прыезду беларусаў Польшчы ("Цаглінкі") і спадзяюцца на ўдзел іншых польскіх калектываў у наступным святце. Рады будуць у Залессі і прыезду народных майстроў са сваімі вырабамі. Імя Міхала Клеафаса Агінскага насамрэч аб'ядноўвае беларусаў, палякаў і літоўцаў.

У гэты раз фэст прайшоў не ў маёнтку Агінскіх (там урэшце распачалася рэстаўрацыя), а ля будынку былога санаторыя-прафілакторыя. Гэты аб'ект можа пераўтварыцца ў добры гатэль, але цяпер выглядае зусім не прэзентабельна. Уладальнік санаторыя шукае надзейнага партнёра для аднаўлення працы санаторыя.

**Дар'я Ліс**



Залескі летапісец

# Ці будзе ў Залессі карчма?



На ўсходзе Чэхіі, на самай мяжы са Славакіяй, сярод маляўнічых перадкарпацкіх узгор'яў, раскінулася вёска Брэзава, першая пісьмовая згадка пра якую адносіцца да 1351 года. Вёска мае даўнюю гісторыю, а жыццё яе жыхароў напоўненае сваімі мясцовымі традыцыямі. Кожную нядзелю насельнікі вёскі, сем'ямі, ва ўрачыстых убраннях, ідуць да касцёлу. Разам з дарослымі крочаць і дзеці, многія з каторых апранутыя ў нацыянальныя строі. Відовішча вельмі ўрачыстае. Брэзава мае і іншыя традыцыі: музычнае свята медных трубаў, фестываль музыкі кантры, свята вёскі, галоўная умова якога - неабходнасць кожнаму быць апранутым ў нацыянальнае чэшскае ўбранне. Дарэчы, ледзь не кожная з брэзаўскіх гаспадынь умее раскройваць, шыць, аздабляць карункамі нацыянальныя касцюмы. Валодаць такім майстэрствам – вялікі гонар для сучаснай брэзаўскай жанчыны.
Жыве пад блакітным небам Маравіі каля тысячы чалавек, прыкладна як у нашым Залессі, што таксама мае багатую гісторыю і свае традыцыі: святкаванне ўгодкаў М. Кл. Агінскага, фестываль-кірмаш “Залессе запрашае сяброў”, свята Купалля. Але як бавяць вольны час жыхары Залесся і Брэзава? У першым выпадку - канапа і тэлевізар. Брэзава ж вылучаецца тым, што там ёсць тры гасподы, па-нашаму кажучы, рэстаран і дзве кавярні. Менавіта там, ва ўтульнай абстаноўцы, жыхары вёскі сустракаюцца, каб пагутарыць, абмеркаваць апошнія навіны, падыскутаваць, а часам, выпіць келіх піва (у Чэхіі без гэтага не магчыма), патанчыць і паспяваць, адведаць смачных кнэдлікаў (падобна на варэнікі, але чэхі дадаюць туды мак, ягады, арэхі, кавалкі персікаў). Менавіта наяўнасць такіх “установаў” зближае вясковую грамаду, дае магчымасць людзям кантактаваць не толькі цераз плот ці на лаўцы каля двара!
Праблема адсутнасці месцаў грамадскага харчавання характэрная не толькі для Залесся, але і для кожнай беларускай вёскі, мястэчка і нават горада. Падчас цяжка знайсці месца, каб перакусіць і паразмаўляць з сябрамі, нават у Мінску…
Але ж традыцыя дзейнасці установ харчавання ў нас даўняя і сягае ажно ў XIст. Традыцыйнымі установамі грамадскага харчавання для Беларусі з'яўляюцца корчмы і шынкі. На XVI стагоддзе прыпадае росквіт дзейнасці гэтых установ. Нават ў XIXст. па апісаннях этнографа і падарожніка Паўла Шпілеўскага кожнае беларускае мястэчка, а то і вёска мелі па некалькі корчмаў. З наступленнем эпохі бальшавізму дзейнасць корчмаў і шынкоў, як і ўсіх астатніх установ тракцірнага промыслу, была згорнута. Палітыка савецкай улады не дазваляла прыватнай уласнасці, а корчмы і шынкі знаходзіліся ў руках прыватнікаў. Да таго ж таталітарны рэжым быў накіраваны на тое, каб абмежаваць свабодныя стасункі паміж людзьмі, а ў корчмах можна было задумаць і антыдзяржаўную змову. Шмат дзесяткаў гадоў савецкай улады задушылі даўнюю традыцыю дзейнасці корчмаў на беларускіх землях…
Аднак не варта засмучацца: ёсць багатая гісторыя і свае цікавыя звычаі, ёсць цудоўная вёска Залессе, у якой жывуць ініцыятыўныя і працавітыя людзі. Не хапае Залессю сваёй карчмы, дзе б маглі збірацца і залескія жыхары, і турысты, якія пастаянна наведваюць Паўночныя Афіны. Мой знаёмы, прафесар Сарбоны з Парыжа, неяк сказаў, што калі б Залессе знаходзілася ў Францыі, то там бы было як мінімум дзесяць кавярняў… Хочацца верыць, што хоць адна добрая кавярня з'явіцца ў Залессі…А аб тым, што елі ў корчмах Смаргоншчыны, даведаецеся ў наступным нумары “Залескай талакі”.

**Людміла Рогач, гісторык, аспірантка Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта**

**Наўздагон!**
Ці будзе ў Залессі свая карчма або кавярня? Падчас свята вёскі мясцовая моладзь зладзіла цікавы падворак - карчму “Агінец”(фота). Тут можна было паспрабаваць “Шмурдзюк ад цесця”, “Бліны ад цешчы” ды “Юшку Залескую”. Хочацца верыць, гэта ініцыятыва будзе мець працяг!

Справы школьныя

# Прывітанне, школа!

Прыйшла восень і пасадзіла за парты вучняў Залескай школы-сада. У 1 клас да новай настаўніцы Вольгі Францаўны Бялянскай прыйшло 13 дзетак: для іх усё новае і цікавае, усё ўпершыню, але і яны ўжо могуць пахваліцца поспехамі ў вучобе. У прыватнасці, Жыжыч Віталь – пераможца алімпіяды “Малышок” па матэматыцы сярод выхаванцаў дзіцячага сада (III месца). Нашы дашкольнікі ўвогуле малайцы і радуюць сваімі поспехамі ўжо некалькі год! Рубан Паліна, Кенько Ангеліна і Віка Бугайчук добра сябе паказалі і занялі прызавыя месцы на раённых алімпіядах апошніх трох год. Выпускнікі 2010/2011 навучальнага года таксама парадавалі школу і сталі студэнтамі! Усе 10 чалавек… Хочацца верыць, што і ў сёлетніх адзінаццацікласнікаў усё атрымаецца добра!

**Таццяна Якубоўская, настаўніца Залескай школы-сада, старшыня прафкама**



Навіны сельвыканкама

**25 жніўня** паседжанне сельвыканкама было прысвечана папярэджанню злачыннасці і правапарушэнняў, працы па ўмацаванню грамадскага парадку ў свеце патрабаванняў закона РБ “Пра ўдзел грамадзянаў у ахове грамадскага парадку”.
Былі прынятыя наступныя рашэнні.
**ААТ** “Смаргоньлён” забяспечыць працу добраахвотнай дружыны.
**Кіраўнікам** установ культуры актывізаваць працу па фарміраванні здаровага ладу жыцця грамадзянаў, стварыць інфармацыйны стэнд аховы правапарадку для размяшчэння звестак пра ахову правапарадку і асобаў, што парушаюць грамадскі парадак.
**Кіраўнікам** установ адукацыі ажыццяўляць мерапрыемствы па прафілактыцы правапарушэнняў сярод дзяцей і падлеткаў, кантакты з бацькамі, кантроль за арганізацыяй вольнага часу дзяцей і моладзі.
**Даручыць** дэпутатам сельскага Савета дэпутатаў, старастам вёсак, інспектару і сацыяльным работнікам установы “Тэрытэрыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва “Цёплы дом” праводзіць мерапрыемствы па выяўленні фактаў гвалту ў сям'і і асобаў, што іх здзяйсняюць.
**ААТ** “Смаргоньлён”, упраўленню адукацыі Смаргонскага райвыканкама, Смаргонскаму раённаму спажывецкаму таварыству, ТДА “Белпрамстрой” прыняць канкрэтныя арганізацыйныя меры па прадухіленню несанкцыянаванага доступу грамадзянаў у будынкі, што ў дадзены момант пустуюць.
**Кіраўнікам** установ аховы здароўя ўзмацніць барацьбу з алкагалізмам грамадзянаў і патэнцыйных пацыентаў, а таксама ўдзяляць асаблівую ўвагу неда бранадзейным сем'ям, што выхоўваюць непаўналетніх дзяцей.
**Участковым** інспектарам Смаргонскага РАУС, што абслугоўваюць Залескі с/с, кожную сераду дакладваць кіраўніку сельвыканкама пра правапарушэнні і злачынствы на дадзенай тэрыторыі.

Заснавальнік ГА "Сяльчанка" /адрас: в. Залессе, вул. Чыгуначная. Галоўны рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375 29 655 30 13
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна “Пры падтрымцы Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь”.